Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 27 27 кастрычніка - 2 лістапада 1995 года ЦАНА 700 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Заставайцеся з "Рэгіянальнай"

Месяц з невялікім будзе ісці падпіска, што пачалася 20- га кастрычніка. "Рэгіянальная газета" цяпер знаходзіцца ў рэспубліканскім каталогу і падпісацца на яе можна ў любым аддзяленні сувязі Беларусі.

Менавіта на гэта хочацца звярнуць увагу нашых чытачоў. Застаючыся па назве і сутнасці рэгіянальным выданнем, наша газета будзе распаўсюджвацца па тэрыторыі ўсёй рэспублікі. Гэта азначае, што нашы землякі, куды б лёс ні закінуў іх – у Віцебск ці Мазыр, Шклоў ці Жалудок, могуць быць звязаны інфармацыйнай повяззю з бацькоўскім домам. Падкажыце сваім братам і сёстрам, бацькам, пляменнікам і дзецям, якія жывуць, адарваўшыся ад малой радзімы, што ёсць такая газета, дзе пра справы на радзіме можна даведацца аператыўна. А мы пастараемся, каб нашы публікацыі заўсёды сустракаліся з інтарэсам.

**Падпісная цана на квартал— 12000 рублёў, на паўгоддзе 24000 рублёў**

**Наш індэкс ранейшы — 63212.**

**Усяго вам найлепшага!**

*РЭДАКЦЫЯ "РГ"*

## Адмяняюцца электрычкі

***У сувязі з правядзеннем работ па рамонту маста 31 кастрычніка 1995 года на ўчастку Маладзечна — Мінск адмяняюцца электрычкі:***

адпраўленнем з Маладзечна ў 7-44, 9-52, 13-02, 14-31, 16-27,

прыбыццём у Маладзечна ў 11-42, 14-42, 17-30, 18-55.

Назначаюцца электрычкі Маладзечна– Ратамка:

адпраўленнм з Маладзечна ў 8-27, 15-28,

прыбыццём у Ратамку ў 9-48, 16-55;

адпраўленнем з Ратамкі ў 9-02, 11-19,

прыбыццём у Маладзечна ў 10-28, 12-56.

***Будуць ісці зменены маршрутам праз Памыслішча, Дзегцяроўку, Крыжоўку да ст. Мінск электрычкі:***

адпраўленнем з Маладзечна ў 9-08, 11-36, 13-38,

прыбыццём у Мінск ў 11-38, 14-20, 16-10;

адпраўленнем з Мінска ў 9-24, 12-00, 13-37, 16-30,

прыбыццём у Маладзечна 11-41, 14-18, 16-13, 18-45.

***За даведкамі звяртацца па тэл. 7-08-48, 78-4-23.***

# Шчыльнеюць рады таўкучкі

**ВІЛЕЙКА.** *Здаецца, імя першага "вертыкальнага" мэра горада трывала ўвайшло ў гісторыю райцэнтра. Менавіта Пётр Юдо паспрыяў таму, каб тут быў адроджаны базарны гандаль, які ў апошнія дзесяць- пятнаццаць год сышоў на нішто.*

Старажылы могуць успомніць бойкі гандаль на базары, дзе цяпер месціцца СШ№ 3. А пасля пераезду на выселкі ў пачатку шасцідзесятых ён стаў чэзнуць. І знік бы зусім, калі б з восені мінулага года ледзь не пад прымусам у мэра дзржаўныя і спажыўсаюзаўскія гандляры сталі наладжваць на базары рэгулярныя кірмашы. Але месца на выездзе з горада – што ні кажы – не вельмі каб. Вось і пагадзіліся гарадскія ўлады, каб гандаль ладзіўся і на галоўным пляцы ў цэнтры горада– плошчы Леніна. Сёння тут штодня (!) віруе жыццё. Усё большае тут не толькі дзяржаўных і кааператыўных латкоў, але і прыватных. Яны, мабыць і пераважаюць. Здаецца, хутка і Маладзечна са сваімі стадыёнамі- базарамі нічога не дапаможа суседцы- Вілейцы.

Пакуль гарвыканком думае, ці перанесці "Юдоўку", як гэтае бойкае месца ахрысцілі вілейчане, з- пад пастамента Ільічу ў якоесь іншае месца (камуністы крыўдзяцца), на рынку з кожным днём шчыльнеюць рады стракатых палатак з таварам з Мінска, Маладзечна, Гродна, Бярдзічава, Тайваня ды Сінгапура... Жыві, вілейская камароўка!

*Мікола ГАЙДУК*

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Абзавяліся ішаком

**ВАЛОЖЫН.** *У вяскоўцаў жыве нямала кароў, коней. А вось свойская жывёліна, якую трымаюць Малання Іванаўна і Канстанцін Адамавіч Радыны прэтэндуе на асобны запіс у статыстычнай хроніцы, бо яна адзіная на Валожыншчыне. Сёмы год клапатліва служыць сваім гаспадарам ішак, ці як яго інакш называюць у народзе— свойскі асёл.*

Трапіў ён у вёску Сугвазды з сярэднеазіяцай краіны ў выніку бартэрных аперацый. А цяпер ішак сам зарабляе сабе "на хлеб", звозячы ўвосень бульбу, буракі з агарода, дастаўляючы ўлетку да сенасховішча сухі травяны корм. Звыклай для яго стала і дарога ў калгасны млынок...

За сем гадоў гэтая паўднёвая жывёліна прызвычаілася да беларускіх кліматычных умоў. Затое да асла так і не змаглі прывыкнуць чатырохногія вясковыя "шарыкі", з апаскай пры сустрэчы паглядаюць на свайго суродзіча коні. Затое для мясцовай дзятвы ён найлепшая забава– любіць паласавацца цукеркамі і з ахвотай і апетытам паядае шматкі ...газет.

Бясспрэчна, непераборлівая да корму, працавітая жывёліна– добрая падмога ў сялянскай гаспадарцы. Але з гадамі старым становіцца ўсё цяжэй і цяжэй спраўляццца са сваім памочнікам з- за зразумелай рысы характару, уласцівай усім без выключэння аслам. Таму Радыны і не ўпэўнены, што непаслухмянасць, рэдкая ўпартасць паўднёвай жывёліны не прымусяць пажылых пенсіянераў збыць асла людзям з большым запасам вытрымкі і цярпення.

*Ірына ПАШКЕВІЧ*

### Не сядзіцца ў хаце маладзечанскім турыстам. Замест венікаў яны вяжуць вузлы

***На Маладзечаншчыне прайшло веларалі "Маладзечанская восень". Удзел у ім бралі 7 каманд. Першае месце заняў "Пілігрым- 2", на другім і трэцім— "Веласіпедыст- 2" і "Веласіпедыст- 1".***

Адзначым каманду "Прэзідэнт", за якую выступаў прэзідэнт турклуба С. Бялкоў разам са сваімі сынамі (Ваня з 1988 года нараджэння, Коля– з 1990). Дыстанцыю ў 53 км яны праехалі на адным веласіпедзе. Чацвёртай у камандзе была Таццяна Сучкова, якая змяніла ў апошні момант маму названых хлопчыкаў (прычына– хвароба апошняй).

У нядзелю ў гарадскім парку мяркуецца правесці спаборніцтвы па тэхніцы пешаходнага турызму. Удзельнікі мусяць пераадолець навясную пераправу, бервяно, чакае іх пад'ём і спуск з "гары", арыентаванне, вызначыцца таксама, хто лепш за ўсіх вяжа вузлы. На жаль, да апошніх дзён спаборніцтвы не мелі фундатара. Гарспорткамітэт жа можа выдзеліць толькі па 15 тысяч кожнаму з камандыпераможцы. На 3 бутэлькі піва.

А яшчэ ў турклубе "Пілігрым" рыхтуюцца да велапаходу па Мінскай і Віцебскай абласцях. Праблема адна– ізноў жа грошы. Нават групу школьнікаў прыйдзецца, напэўна, пакінуць дома.

*Іосіф ПЯТРОЎ*

### Кніга рэкордаў. І вы туды можаце трапіць

***Гена Юрэвіч і яго сябры ўвайшлі ў гісторыю школы мастацтваў горада Маладзечна, як стваральнікі школьнай Кнігі рэкордаў.***

У кабінеце дырэктара добра ўпісаўся зрэз магутнага дрэва- чурка, пакрытая імхом, на якой ляжыць прыкаваная тоўстым ланцугом сама Кніга. Некаторыя яе старонкі ўжо спісаны, нягледзячы на тое, што навучальны год толькі набірае тэмп. З дазволу дырэктара школы Людмілы Аркадзьеўны Васілевіч я разгарнуў Кнігу і даведаўся, што сярод 2580 навучэнцаў самы высокі Васіль Гісіч з 10"Б"– 191 см, самы нізкі Андрэй Станкевіч з 1"А"– 110 см. Самыя доўгія прозвішчы: Талстакулакоў, Саламяннікава, Падвальнікава. А самыя кароткія Ган, Рак, Шут, Жук, Бом, Мех, Рог, Рой, Лях. Самы малады лектар– Юля Грыцкевіч з 5"А" класа. Яе любімая тэма выступленняў– міфалогія.

Перадаюць свае веды 266 настаўнікаў. Сярод іх самая лёгкая– Святлана Ламака– 50 кг. Гэта абаяльная настаўніца пачатковых класаў так спадабалася без пяці мінут выпускнікам, што была сапраўдная чарга, каб яе ўзважыць. А вось самы цяжкі, на агульную думку, настаўнік фізвыхавання Аляксандр Раўба, так і не даў сябе ўгаварыць стаць на вагі. З прозвішчаў вучняў і настаўнікаў можна скласці сапраўдны даведнік, які мае 34 разнавіднасці флоры і фауны. Уявіце сабе— заняткі наведваюць 4 Голубы, 4 Сокалы, 3 Арлы, 13 Жукоў, 9 Бараноў, 14 Казлоў, 1 Курачка і г. д. Пасля ўспрымання ўсёй гэтай інфармацыі да мяне звярнуўся адзін з рэдактароў Кнігі і ўрачыста павіншаваў – я таксама трапіў на яе старонкі, бо рагатаў 38 секунд, больш за іншых. А на патрабаванне выдаць у такім выпадку ганарар сур'ёзна параіў пачакаць і не губляць надзею.

*Васіль САВІЦКІ*

### ...І метровыя шчупакі!

**МЯДЗЕЛ.** ***Ад душы маглі павесяліцца ў мінулую нядзелю мядзельчане і іх госці на плошчы Шаранговіча ў райцэнтры. Сюды сабраліся ўсе жадаючыя на тэатралізаванае прадстаўленне "Кірмашовыя забавы Несцеркі і Цярэшкі".***

Адкрыў яго кароткім уступным словам начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкома Уладзімір Валасевіч, які адзначыў, што гэта свята як бы падводзіць вынікі нялёгкай працы хлебаробаў азёрнага краю....

Многія з цікавасцю пазнаёміліся з багатымі экспанатамі выставы сельскагаспадарчай прадукцыі, яшчэ больш людзей віравала ля калгасных машын, з якіх прадавалі збожжа і гародніну, свініну і ялавічыну.

Як і павінна быць у рыбных мясцінах, тут гандлявалі вэнджанымі вуграмі, метровымі шчупакамі, важкімі ляшчамі, не кажучы ўжо аб рознай іншай азёрнай драбязе. З ахвотай людзі набывалі таксама рыбныя кансервы, цэны на якія былі памяркоўныя, а выбар– даволі багаты. Дарэчы, кошт усёй прадукцыі на кірмашы быў значна ніжэйшы, чым у магазінах.

Не было недахопу на кірмашы і ў звонкіх песнях, імпэтных скоках. Нават кароткачасовы дождж, які сыпаў разпораз з асенніх хмар, не вельмі псаваў людзям настрой, бо пасля яго ярка свяціла сонейка. Свята ўдалося, ды і мала хто вяртаўся дадому з кірмашу без нейкай патрэбнай пакупкі.

*Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ*

# Гісторыя паўтараецца?

**МЯДЗЕЛ.** ***Мінулай восенню на адзін мандат дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па мядзельскай выбарчай акрузе № 201 прэтэндавалі восем чалавек.***

Аднак ніводнаму з іх не пашчасціла. Пераможцу не выявіў нават другі тур майскага галасавання, калі старшыням мясцовых гаспадарак Казіміру Гапановічу і Пятру Чарняўскаму не хапіла ўсяго некалькі соцень галасоў.

З тых васьмі кандыдатаў толькі адзін рызыкнуў паспытаць шчасця ў паўторных выбарах– Генадзь Малышаў, інжынер-механік санаторыя "Будаўнік", які вылучаны Беларускім Народным Фронтам. Апрача яго кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета акруговая камісія ў мінулы аўторак зарэгістравала Эдуарда Вайцяховіча– дырэктара Свірскага ПТВ-207, Пятра Гаварко– начальніка рамонтна- будаўнічага аб'яднання "Мінаблрбуд", Міхаіла Гардынца– генеральнага дырэктара ТАА "Нарач", Уладзіміра Грыдзюшку– прэзідэнта Беларускага фонду сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў "Мы– дзецям", Уладзіміра Рулькевіча– начальніка спецкамендатуры РАУС, Анатоля Саматохіна– старшыню праўлення Мінскага банка "Белаграпрамбанк" і Георгія Таразевіча– Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла РБ у рэзерве Міністэрства замежных спраў.

І зноў– восем. Можна меркаваць, што і на гэты раз справа адным словам не абыдзецца. Калі гаварыць на сённяшні дзень, то жыхарам раёна найбольш вядомы прозвішчы Вайцяховіча, Малышава, Таразевіча. Самы "тытулаваны" з іх– ураджэнец Мядзельшчыны Георгій Таразевіч, колішні старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, нядаўні пасол нашай краіны ў суседняй Польшчы. Але ж да выбараў яшчэ ёсць час, а ў кожнага з кандыдатаў– магчымасць пераканаць людзей у тым, што ён найбольш здолее зрабіць для паляпшэння іх жыцця, спаўна апраўдае надзеі. А рашаючае слова скажуць выбаршчыкі 29 лістапада.

*Янка ЯСІНСКІ*

# Не кожны дзень ваенныя цырульнікі стрыглі генералаў. А маршала Жукава– тым больш

*Радкі з біяграфіі Лізаветы Ігнатаўны АЎЛАСЕВІЧ. З 1941 па 1946 год– 2-гі Беларускі фронт, спачатку была санітаркай, пасля цырульнікам. Да пенсіі працавала ў Доме быту г. Маладзечна. Муж і малодшы сын загінулі ў аўтамабільнай катастрофе. Чатыры гады таму памёр старэйшы сын. Лізавета Ігнатаўна– інвалід ІІ групы, акрамя драўлянай хаты ў яе засталіся толькі ўспаміны і надзея на хуткую сустрэчу з роднымі....*

– Да вайны жылі бедна. Бацька хварэў, маці працавала поварам. Штосьці дамоў прынясе– мы задаволеныя, тупаем вакол яе, тыкаемся дзюбамі ў кішэню, быццам галчаняты, тулімся да яе. З трох сясцёр я была старэйшай.



У ваенкамаце прасілася на фронт. Смелая была: мне слова, а я ў адказ– дзесяць. Сівы афіцэр пытаецца: "Што рабіць можаш?" А я бачу, што ў яго гады лысіна, валасоў вакол зусім мала, і кажу ў адказ: "Цырульнікам магу працаваць, дазвольце паспрабаваць!" І рагачу. Вось так пры медсанбаце і праслужыла: раненых на сабе выцягвала з- пад куль, а ў зацішша стрыгла. Да Берліна дайшла. Ордэн маю і шэсць медалёў.

У 45- м бачу, наш камбат, які нават у атацы ніколі не прыгнуўся, бегае разгублены, чырвоны. За плячо мяне схапіў і цягне ў штаб. А там маршал Жукаў са сваімі генераламі пагаліцца ды пастрыгчыся жадае. Адказнасць адчуваю вялікую, рукі дрыжаць Схапіла машынку– і да яго. "Пад нуль?"– быццам сцвярджаю. "Што ты, ёжка! Прыдумала– пад нуль. Вайне канец, хутка дадому паедзем!" А камбату з металам у голасе: "Каб гэта ёжка праз пару гадзін выглядала царэўнай!" А на мне былі кірзавыя боты вышэй калена і адзенне на пару памераў большае. Апранулі мяне– казка. А як песні спявала! Любімыя свае "Тёмная ночь", "Бьётся в тесной печурке огонь", пра Галю маладую... Але часцей было не да песень.

У 43- м далі зброю і адправілі на палонных немцаў. Застрэліць тых, каму ўжо нічым не дапаможаш. Ступаю сярод фрыцаў, ляжаць яны, сядзяць на зямлі. Раптам адзін за ногі схапіў моцна- моцна і шэпча: "Ватэр, ватэр", вады значыцца. Зірнула, а ён без ног, у сваёй крыві плёскаецца. Уцякла адтуль, пра заданне забыўшыся.

Немцы бацькоў маіх забілі. Яны ў сваёй хаце яўрэйку- урача хавалі. А сясцёр праз часопіс "Работніца" знайшла праз тры гады пасля вайны... Яшчэ выпадак прыпомніўся. Вясной пачалося наступленне. Асцярожна па льду пераходзілі Віслу. А фрыц сустрэў нас на другім беразе моцным агнём. Ільду як і не было. Загад адыходзіць. А куды? Плаваць не ўмею. Навокал– нічога, за што можна было б учапіцца. Зайшла ў ваду па грудзі, уся калачуся. А мужыкам– сябе б выратаваць. І раптам бачу побач– кабыла наша абозная, Машка. Схапіла я яе за хвост. Так удваіх назад і пераплылі. Сяджу на беразе– плачу ўголас. Падышоў стары салдат, пацмокаў. Зняў у мяне боты, ваду з іх выліў, каб не прастыла. А тое, што я загінуць, утануць магла, нікога і не хвалюе....

x x x

Лізавета Ігнатаўна жыве адна. Дапамагаюць дзяржава, пляменнікі, чужыя, але спагадлівыя людзі. Настолькі, наколькі можна дапамагчы 75- гадоваму чалавеку такога гаротнага лёсу. Чалавеку, які грэецца ўспамінамі ў пустой і халоднай хаце....

**Васіль САВІЦКІ**

# На Алімпіядзе ў Атланце будуць і ў карты гуляць

Для маладзечанцаў картачная гульня брыдж (падобная на прэферанс, але больш складаная) не з'яўляецца навіною. Каторы год тут праходзяць спаборніцтвы па гэтым відзе спорту (так-так, менавіта спорту, бо паказальныя выступленні па брыджы ўключаныя ў праграму Алімпійскіх гульняў у Атланце), брыдж-клуб "Папараць" рэгулярна збірае аматараў гэтай гульні на трэніроўкі.

5-7 кастрычніка ў Маладзечне пройдзе 1-й тур першынства краіны (вышэйшая ліга). Упершыню ў Беларусі спаборніцтвы праводзяцца па правілах Еўрапейскай брыджавай лігі. Ад Маладзечна ўдзельнічаюць дзве каманды: Я. Чаеўскі - Я. Гардзей і А. Грынцэвіч - А. Шарафановіч. Слова - прэзідэнту брыдж-клуба "Папараць" Яўгену Чаеўскаму:

- Адразу хачу запрасіць чытачоў "Рэгіянальнай газеты" наведаць спаборніцтвы, наш клуб. Брыдж - гульня спецыфічная, асабліва для назірання (можна параўнаць з шахматамі, толькі больш дынамічная ды карты ж не ўбачыш, як шахматныя фігуры). Адзначу, што ў нас цяпер шмат жадаючых усур'ёз займацца брыджам. Плануем нават весці заняткі ў школах - гарадскі аддзел адукацыі ідзе нас насустрач, бо гульня развівае здольнасць меркаваць лагічна, дапамагае ў вывучэнні матэматыкі, развівае памяць і інш.

**Яўген РАДЗЕЦКІ.**

# Сцеражыся ...чалавека

***Ужо ні для каго не з'яўляецца навіной ісціна: вечарам лепш сядзець дома. Злачыннасць дасягнула такога размаху, што іншы раз нават страшна аб гэтым падумаць. Якімі мы сталі безабароннымі! Мы - простыя людзі і ўсё наша грамадства ўвогуле.***

Кожны дзень прыносіць новыя звесткі аб грабяжах, насіллі, забойствах. Днямі, напрыклад, Смаргонь абляцела вестка аб з'яўленні там маньяка. Першая ахвяра - непаўналетняя дзяўчынка - знаходзіцца ў бальніцы. Міліцыяй аб'яўлены вышук гвалтаўніка. Смаргонь ізноў узбуджаная.

Не адстае, а нават і пераўзыходзіць па злачынных паказчыках сваіх суседзяў Маладзечна. Як паведамілі "РГ" з транспартнай міліцыі, нядаўна знойдзены чарговы труп чалавека, асоба якога ўстанаўліваецца.

Спецыялісты сцвярджаюць: злачыннасць значна памаладзела. А гэта значыць, што на слізкую дарогу збочваюць не нейкія там забытыя грамадствам адшчапенцы, хворыя, а нармальныя і больш таго - здаровыя хлопцы, якія любяць смачна паесці, модна апрануцца, параспаць з прыгожай дзяўчынай. Для гэтага патрэбныя грошы. Дзе іх узяць? Вядома ж, не ісці зарабляць на прадпрыемства. Там цяпер асабліва не разгонішся. Лепш узяць у каго-небудзь. А будзе супраціўляцца - вядомая справа...

На мінулым тыдні мой сусед ледзь прыйшоў дадому ў адных шкарпэтках. Два тыдні ляжаў пасля гэтага ў бальніцы. Кажа: вяртаўся дадому ад брата. Выпіў толькі крыху. У парку не паспеў і вокам міргнуць, як апынуўся на зямлі. Апрытомнеў ад холаду, болю ў галаве і грудзях. А ён жа прайшоў Афганістан, мае ордэн...

Заўсёды звяртаю ўвагу на адкормленых, прыгожа апранутых хлопцаў, якія днём вызначаюцца сярод астатніх. Яны нікуды не спяшаюцца, бесклапотна сядзяць каля магазінаў, кіёскаў, ларкоў і пацягваюць піва з банак, кураць дарагія цыгарэты. Па ўзросту - яшчэ зусім маладыя. Гледзячы на іх, успамінаю розныя гісторыі, якія чую на рабоце, ад суседзяў. І незнарок задаюся пытаннем: якім чынам гэтыя хлопцы зарабляюць на жыццё? А можа...

Не хочацца думаць пра дрэннае. І ўсё ж я баюся людзей, калі іду вечарам. Раней я так баялася бадзяжных сабак.

**Таццяна ШАЎЦОВА**

## Пяць хвілін з пісьменнікам

# Галасы

***У апошнія гады я шмат іх запісаў у свой пісьменніцкі сшытак. Маналогі гараджан і вяскоўцаў, маладых і пажылых людзей я чуў у электрычках і аўтобусах, у чэргах і на вуліцах, ад знаёмых і зусім не знаёмых людзей. У людскіх галасах у пэўнай меры адбіліся характары і лёсы маіх суразмоўцаў, іх спадзяванні і надзеі, роздум пра бачанае і чутае.***

***Спадзяюся, што запісаныя мною галасы знойдуць водгалас і ў сэрцах чытачоў.***

***Аўтар***

## А мае ўнукі хіба горшыя?

– А што? Я – нічога! Дача, сад, соткі. І ўсё норма: Склеп выліў з цэменту, хакі- макі. Што халадзільнік. Каб зімою свежую капусту прадаваць, вясною яблыкі. Ды яшчэ пенсія. Усё баяўся, што не дачакаюся. Дачакаўся. Ну, а цяпер, калі я на заслужаным адпачынку, дык дазвольце мне распарадзіцца ім, як мне хочацца. А хочацца так, каб і занятак быў блізкі сэрцу, і эканамічны інтарэс не кульгаў на дзве нагі. Мне так шмат не трэба. Было б што на тулава накінуць ды на ногі насунуць. Але ўнукі ёсць, для іх трэба старацца,– бацька ж, сукін кот, кінуў іх. Значыцца, трэба гадаваць і вучыць іх так, каб дурнямі не былі. На іншых паглядзіш, хто хітрэйшы, рэпецітараў наймаюць, каб іх дзеткі не на двойках, а на пяцёрках ездзілі. А мае ўнукі, хіба горшыя? Не, выведу іх у вучоныя людзі. Іншы раз мне кажуць: а хто будзе на полі і на заводах рабіць? А тыя, пра каго бацькі не думаюць. Тыя самыя. А мае ўнукі будуць імі камандаваць. Начальнікі ж таксама трэба? Ці як? Ці без іх? Не, без начальства нельга. Дык няхай лепш мае будуць, чым суседнія. Ну, а да таго, як ім стаць начальнікамі, ох яшчэ доўгая песня. А адсюль, значыцца, мне трэба яшчэ гадкоў патнаццаць, а то і дваццаць гарбацець. Вось і стараюся, дарагі мой, як гаворыцца ў святым пісанні: у поце чала свайго здабываю хлеб свой надзённы. Вось гэтымі рукамі, без ніякай дапамогі. Так што будзьце спакойны, хакі- макі...

## Жыву, як хачу

– Ну і няхай! Няхай гавораць, што хочуць. Раней ад слёз задушылася б, а цяпер – не. Не я вінавата, што пайшло так жыццё. Хіба я хацела сабе горш? Зайздросцілі сяброўкі, што за Паўлюка выйшла. Ды яшчэ як! Агонь, а не хлопец! Прыгажун. Думала, да смерці будзем разам. А ён як пачаў з вяселля, так і не прасыхаў ні аднаго дня потым. Паўгода прайшло, а яму ўжо і не да мяне. Прыйдзе, упадзе пластом і дае храпача лычом да сцяны. А прачнецца апоўначы, лезе. А ад яго, як ад свінні, смярдзіць. Хіба пра такое я думала? А так прыкідваўся, калі кавалерам быў: "Цярпець не магу. Толькі ў кампаніі. І не гарэлку, а самадзельны квас п'ю". А выйшла – штодня піў. Дык навошта тады жаніўся? Піў бы сабе. Не лез бы. А то, бачыш, захацелася займець сям'ю. Жонку захацеў. Абрыдла аднаму цягацца, без догляду. А тут, канешне, І абмыюць, і накормяць, і ў ложак пакладуць, прылашчаць. Спі, Паўлючок, спі даражэнькі! І ўсё задарма, свіння смярдзючая! Таму і прагнала. А Васька чым лепшы? Ну піў мала, дык затое лежань з лежняў быў. Нічога ў гаспадарцы не хацеў рабіць. Цвік не забіў. "На тое і жонка, каб дома ўсё рабіць". Во як! Наймічка яму! Быццам нічога не зарабляю. Ды ў мяне, калі захачу, уся палучка можа застацца цэлая. У сталоўцы, ды быць галоднаю? Хо, калі б яшчэ і піла, а то і кроплі ў рот не бяру. І не куру, як іншыя. Ды і ці багата адной трэба? Жыву цяпер, як хачу. Трыццаць шэсць гадоў, а ў лазні жанкі больш дваццаці не даюць. Свінні смярдзючыя, усё на віно і гарэлку памянялі. Трымаліся б, учапіўшыся ў спадніцу, за такую жонку, а яны?... Цьфу! І не трэба. Сама сабе гаспадыня. Куды хачу, туды і іду ці еду. А што плявузгаюць пра мяне – пляваць мне на іх! Ад зайздрасці ўсё.

## Гэта точна

– Я што, я – работнік. Усё жыццё раблю. А інакш як? Інакш няма як. Нашто жыццё дадзена чалавеку? Няўжо, каб толькі лыхты біць ды гарэлку піць? Не, дарагі, у тым і ўся загвоздка, што без працы чалавек гіне. Паглядзі, калі п'яніца – дык і канец чалавеку. Такіх людзей колькі хочаш. Гэта точна. Або вазьмі пенсіянера. Цяпер паявіліся нават такія, што змоладу гатовыя стаць пенсіянерамі. А чаму? Нашто спяшацца? Пакуль рабіў, усё як палажана. І настрой, і выпраўка. А як пайшоў на пенсію і перастаў рабіць, дык тут яму і хана. У работніка зусім іншы фарс. Ён і ступае не пузам наперад, а грудзьмі. Яго адразу пазнаеш. А гэты, які... А, што там казаць. Я люблю работу. Гэта точна. Калі заняты, сябе не бачыш. І думаць пра што паганае няма калі. А вось Клава ў мяне, тая зусім наадварот: "Што я, парабчанка?"– толькі і чую. І лежма ляжыць на канапе. І ўсе хваробы ў яе тулава ўбіліся. І радыкуліт, і сэрца. З раніцы крэкча і стогне. Гэта точна. Сябе і мяне мучае. Дык я яшчэ больш налягаю на работу. Мне, калі на пенсію адпускалі, ціск памерылі. Дык здзівіліся. Ну акурат, як у маладога. Сто дваццаць на семдзесят. Гэта точна. А таму, што работу цягнуў. То адно зраблю, то другое. Грошай зарабіў. Гэта ж добра! А калі добра, дык і сэрца радуецца. І не баліць. Тут яно, як птушаня ў кубле. З усіх бакоў яму цёпла. Бо душа яго грэе. Але і жміндаю не трэба быць. Я заўсёды ў гэтым акуратны. Як той казаў, свайго не аддам, але і чужога, гэта точна, не вазьму. Зараблю трохі грошай за дзень і дзякуй богу. Ды пенсію даюць. Таму і кожнай рабоце, што трапіць у рукі, радуюся, не дажываю, а нажываю. А суседа зайздрасць бярэ. Усё кажа, што мне грошай мала. І ў свята, кажа, робіць. А што рабіць у святы, калі нічога не рабіць? Да памаракі напівацца? Я і выпіць магу. Толькі не ачмуру. Навошта з сябе дурня рабіць? Не, няхай ужо ён, сусед, з сябе дурня робіць. А мне няма калі. Затое і павага. Гэта точна. Тут закончу, у Аляхновічы паеду. Туды запрашаюць. Там для дачы веранду прасілі прыладзіць. Што ж, гэта можна. Зробім. Я цяпер веранды раблю так, што і рамаў не трэба. Яны цяпер дарагія, рамы гэтыя. А я прама ў карабкі ўразаю пераплёты і шкло. Хто не ведае, дык ніколі не дапетрыць, што без рамы. Ну што ж, сто грамаў і дадому. Сёння раней кончыў работу, трэба яшчэ ў лазню паехаць, душу павесяліць.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ**

